# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 19 (1721) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 7 МАЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.



У час падпісання Праграмы супрацоўніцтва паміж ЦК ПАРП і ЦК Кампартыі Беларусі.
Фота А. Талочкі, (БЕЛТА)

## ШЫРЭЙШАЕ НАВУКОВАЕ І КУЛЬТУРНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

У пятніцу, 14 красавіка, у сталіцы БССР Мінску прабывала дэлегацыя ЦК ПАРП па чале з членам Палітбюро, сакратаром ЦК ПАРП Мар'янам Ажэхоўскім. Галоўнай мэтай прыезду было абмеркаванне прынцыпаў пастаянных рабочых кантактаў і супрацоўніцтва ў розных галінах паміж ПАРП і Камуністычнай партыяй Беларусі.

У час прабывання ў Мінску польская дэлегацыя сустрэлася з членам ЦК КПСС, першым сакратаром ЦК КПБ Яфрэмам Сакаловым.

Мар'ян Ажэхоўскі і Яфрэм Сакалоў падпісалі Праграму супрацоўніцтва паміж ЦК ПАРП і ЦК Кампартыі Беларусі. З'яўляецца яна пашырэннем пагадненняў, дасягнутых раней у выніку сустрэч Войцеха Ярузельскага і Міхаіла Гарбачова, рашэнняў „Супольнай польска-савецкай заявы", а таксама „Дэкларацыі аб польска-савецкім супрацоўніцтве ў галіне ідэалогіі, навукі і культуры".

Праграма прадбачвае многія новыя формы садзеяння ПАРП з КПБ. Гаворыцца таксама ў ёй аб партыйным уздзеянні на развіццё супрацоўніцтва паміж прадстаўнічымі органамі розных узроўняў у ПНР і БССР, грамадскімі арганізацыямі, навуковымі ўстановамі і т.п. Абедзве партыі абавязаліся, напрыклад, стварыць умовы для расшырэння супрацоўніцтва ў галіне грамадскіх і тэхнічных навук.

Многа ўвагі ў пагадненні прысвечана таксама супрацоўніцтву ў галіне культуры, яскравай праявай якога будуць фестывалі і конкурсы савецкай і польскай песень. Абодва бакі будуць удзяляць вялікую дапамогу культурным таварыствам, якія гуртуюць беларускае насельніцтва ў Польшчы — і польскае ў БССР. Гэтым нацыянальным групам будзе створана магчымасць пастаянных непасрэдных кантактаў з БССР і ПНР.

У праграме прадбачана таксама актывізацыя супрацоўніцтва журналістаў і сродкаў масавай інфармацыі, а таксама замацаванне сувязей паміж інстанцыямі і партыйнымі арганізацыямі ваяводстваў і абласцей, між іншым, у галіне пашырэння ўзаемакарыснага гаспадарчага супрацоўніцтва.

**Зянон Кулей**
*Трыбуна Люду, № 89, 15-16.04.1989 г.*

## ЭПІЗОДЫ ВАЙНЫ

Прыйшла вясна 1945 г. Першы Беларускі фронт стаяў над Одрай. Страшэнная водная гладзь! Блішчыць, як люстра на сонцы. Смерць перад вачыма... Шырокая даліна. То вербалозая нетра, то — непраходнае балота, то — старое рэчышча з азерцам, ёсць і малыя ўзгоркі.

На камандным пункце інжынерных войск сядзеў за сталом шэф сапёраў ген. Г. Гардзілоўскі. Каля яго стаяў афіцэр, узрост — дзесьці за сорак. Вясновае сонца прабівалася цераз вузкае акенца. Усё прабуджалася да жыцця. Ой, як жа хочацца жыць! А тут трэба ісці пад агонь — на смерць.

Генерал накіраваўся да незнаёмага мне афіцэра. „Пойдзем у квадрат Х. Там разведаеш магчымасць пераправы". Да мяне: „ Пойдзеш далей 10-15 км на поўнач. Вось табе квадрат У. Выканаеш тапаграфічную разведку пераправы. З табой пойдуць бурыльшчык і стралок-радыст. Дадзеныя даставіць у аперацыйны штаб фронту і мне. Час да 17-га красавіка, гадзіна 9.00 Ясна?.." „Ясна, таварыш генерал!"

Метралогі ў ногі! — дабавіў ён. Так нас шыфравалі. Афіцэр і я выйшлі, прыселі. Здымалі знакі адрознення. Аддалі цераз акно дакументы.

(Працяг на стар. 6)

## ДАПАМАГАЦЬ СУАЙЧЫННІКАМ

**Размова з першым намеснікам старшыні Прэзідыума Беларускага таварыства „Радзіма" Мікалаем Васілёнкам.**



**— Чытачам „Нівы" ўжо вядома, што БГКТ у мінулым годзе пачало супрацоўнічаць з Беларускім таварыствам „Радзіма". Раскажыце нашым чытачам аб гісторыі таварыства і напрамках яго дзейнасці.**

— Ад 28 красавіка 1964 года дзейнічае наша таварыства. Яно 27 студзеня 1976 года сталася грамадскай арганізацыяй і прыняло назву „Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом „Радзіма". Яго дзейнасць фінансуе 51 член — заснавальнік, у ліку якіх знаходзяцца, між іншым, Акадэмія навук БССР, культурныя ўстановы, буйныя заводы і фабрыкі рэспублікі. Галоўныя мэты нашай працы гэта актыўнае садзейнічанне ў замацаванні агульнага міру і бяспечнасці народаў, развіццё кантактаў і культурных сувязей з суайчыннікамі за мяжой і іх арганізацыямі (на сяброўскай платформе), азнаямленне суайчыннікаў з гісторыяй, культурай і штодзённым жыццём нашай рэспублікі. Вышэй упамянутых мэт дасягаем шляхам устанаўлення і развіцця сувязей з прагрэсіўнымі і нейтральнымі арганізацыямі суайчыннікаў, аказання садзейнічання ў тварэнні іх таварystваў, саюзаў, клубаў, школ, бібліятэк і гурткоў.

**— Як на практыцы выглядае дзейнасць Беларускага таварыства „Радзіма"?**

— Наша таварыства ўтрымоўвае сувязі з прагрэсіўнымі беларускімі арганізацыямі ў Канадзе, ЗША, Аргенціне, Парагваі, Аўстраліі, Бельгіі, Галандыі, Аўстрыі, Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, Іспаніі і Польшчы. Кантакты ўстанаўліваем шляхам абмену дэлегацыямі між нашым таварыствам і арганізацыямі суайчыннікаў. У выніку супольных сустрэч выпрацоўваем формы садзеяння і так арга-

(Працяг на стар. 2)

# ВЕДАЦЬ І АБАРАНЯЦЬ КАРЭННІ

(Пачатак у папярэднім нумары)

І самалёт прызямліўся і сустрэча была лепшай не трэба, а думак ад гэтага не паменшала. Бо адчуваў: вось-вось дакрануся да таго прыпынку не абстрактна, а рэальна. Як яны жывуць-маюцца, мае суайчыннікі? Ці не забыліся пра Бацькаўшчыну? Што ні кажы, паўстагоддзя аддзяляе іх ад яе, а на геаграфічнай карце раздзяляе цэлы свет. Ведаў, што ў Буэнас-Айрэсе клубы, ці таварыствы імя В. Бялінскага, імя М. Горкага, „Дняпро“, імя А. Пушкіна, імя У. Маякоўскага, імя М. Астроўскага, „Восток“ у г. Берыса, імя І. Франко ў г. Санта-Фэ, Рускае зямляцтва ў правінцыі Місьёнэс, аб'яднаны ў Федэрацыю культурных таварыстваў савецкіх грамадзян Аргенціны.

Нас запрасілі ва ўсе клубы. Мне б хацелася падзяліцца ўражаннямі і меркаваннямі пра кожнае наведванне, ды на газетнай старонцы гэта цяжка зрабіць. Возьмем некалькі адрасоў. Першы — клуб імя М. Астроўскага.

Аўтобус, раз-пораз прыпыняючыся, павoлі рухаўся па вячэрнім Буэнас-Айрэсе, сучасным мегалаполісе — у яго федэральнай сталічнай акрузе і 19 прыгарадах жыве за 10 мільёнаў чалавек, — па асноўнай артэрыі горада авенідзе 9 ліпеня, якая памерамі перавышае Елісейскія палі Парыжа, міма самага вялікага на Захадзе тэатра „Калон“. Доўга мы пятлялі па вузкіх вулачках, пакуль разам са скрыпам тармазоў уперадзе не пачулася: „Прыехалі“.

Двухпавярховы будынак клуба зіхацеў агнямі. З адкрытых дзвярэй даносіўся шум галасоў, гукі музыкі. У клубе свята: 40-годдзе з дня заснавання і сустрэчы з госцьмі з СССР.

У прасторным вестыбюлі нам паднеслі хлеб-соль на ручніку. Паклон табе, хлеб аргенцінскі на далонях суайчынніка! Дзе б ні жыў наш чалавек, свята беражэ гэты звычай свайго працавітага, шчодрага на дабрату народа, знак гасціннасці і павагі.

Тут жа атрымалі мы святочны букет — праграму вечара. Я прачытаў на адной з яго старонак: „І сёння, і заўжды мы будзем аб'яднаны адной мэтай, каб гэты клуб, які носіць імя вялікага змагара і пісьменніка Мікалая Астроўскага, ішоў па шляху прагрэсу, каб усюды нёс песні, танцы і музыку, якую прывезлі нашы дзяды і бацькі з далёкіх раёнаў пакрытага славай Савецкага Саюза, з якім нас звязваюць цесныя вузы дружбы“.

Актавая зала, разлічаная на паўтысячы гледачоў, размясціла, пэўна, намнога болей. Людзі стаялі ў праходах, ля сцен, віталі нас усмешкамі і ўзмахамі рук. Выкананнем Дзяржаўных гімнаў Савецкага Саюза і Аргенціны пачаўся гэты фестываль дружбы. Перарэзана стужка, і пад апладысменты побач з бюстам М. Астроўскага была адкрыта мемарыяльная дошка, прысвечаная юбілею. На мовах дзвюх краін гучалі ўступныя словы і кароткая гісторыя клуба...

...Год стварэння — 1946. Налічвае 350 членаў. Клуб украінска-беларускі, з удзелам аргенцінцаў, італьянцаў, палякаў. Развіты ўсе напрамкі культурна-асветніцкай дзейнасці: мастацкая самадзейнасць, бібліятэка, дэманструюцца савецкія фільмы, у школе рускай мовы вучыцца 55 чалавек. Сістэматычна праводзяцца спаборніцтвы па футболу, валейболу, настольнаму тэнісу. Ёсць свае каманды. Вялікай папулярнасцю карыстаюцца шахматы. У свой час прадстаўнік шахматыстаў клуба ўдзельнічаў у маладзёжным чэмпіянаце свету.

Святочную праграму прадоўжылі клубныя артысты. Хіба валодае слова такім цудадзейным сродкам выразнасці, каб перадаць пачуццё, якое агарнула нас, тых, хто сядзеў за 16 тысяч кіламетраў ад Радзімы і слухаў у выкананні трыццацігалосага клубнага хору „Рассвет“ з маленства знаёмае і дарагое для кожнага беларуса: „Гэта ты, мая, зорка ясная...“?!

Але ж мастацкая самадзейнасць — толькі прэлюдыя. Гледачы з нецярпеннем чакалі самага галоўнага — канцэрта савецкіх артыстаў. І калі ён ішоў, адчувалася, як прагна цягнуліся сэрцы да песень свайго краю, быццам імкнуліся ўвабраць у сябе кожную іх ноту, кожнае слова. І тады па-здрадніцку мільгала ў вачах туга-маркота, учэпістая спадарожніца імігранта, настроеная на слязах і адвечных думках пра радзімую старонку.

У перапынку нас акружылі землякі. Завязалася гаворка, якая часам блукала сярод беларускіх, польскіх, рускіх і іспанскіх слоў. Мажны чалавек, доўгі вус падковай, разважным голасам пытаўся, як з Масквы праехаць у Пінск. Адбыўся лаканічны абмен пытаннямі. Пачынаў я. „Вы — беларус?“ — „Як пазнаў?“ — „Па вас бачу“... У чалавека заняло дыханне, не саўладаўшы з сабою, ён схапіў і доўга трымаў мяне ў абдымках.

Хтосьці цікавіўся турыстычнымі маршрутамі. Справа ў тым, растлумачылі мне, што фірма „Турызма мундзіаль“ мае намер арганізаваць групу суайчыннікаў-беларусаў, каб зрабіць падарожжа па нашай рэспубліцы.

Мікалай Калашук родам з Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. У вёсцы Гнеўчыцы жывуць яго браты Сцяпан і Мікалай Сацуты. „Няблага было б, — гаварыў ён мне, — каб газета „Голас Радзімы“ напісала пра іх, пра калгас. Як і чым жывуць? А што зрабіць, каб выпісаць вашу газету?“

Сцяпана і Веру Коржык цікавіла падпіска на „Голас Радзімы“. Збіраемся вечарамі і чытаем беларускую газету, — расказваў Сцяпан, — тое, што спадабаецца, Вера перакладае для нашае газеты „Родны голас“.

І каторы раз я пераканаўся: падараваўшы чалавеку жыццё непадкупная прырода-матухна раз і назаўсёды прыкавала яго душу да таго кутка, дзе белы свет убачыў. Аб гэтым у свой час пісаў Францыск Скарына: „Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя... тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають“. А пераканаўшыся, зразумеў, чаму яшчэ ў канцы 20-х і далей у Аргенціне беларусы-імігранты засноўваюць „Саюз беларускіх і ўкраінскіх рабочых арганізацый“ (СУБРА), таварыствы „Мінск“, імя Скарыны, імя Я. Коласа, імя Я. Купалы, Беларускае таварыства, адзінаццацітысячны „Беларускі ачаг“, удзельнічаюць у рабоце Славянскага Саюза, выдаюць „Беларускі ілюстраваны каляндар“, „Нашу газету“ і г.д.

Таму што не ўласцівы індывідуалізм таварыскаму характару беларуса, не ў яго натуры трымаць любоў да Радзімы ў сябе. Яму неабходны калектыў аднадумцаў, каб з імі і раздзяліць гэтае светлае пачуццё, на якім ён будзе выхоўваць сваіх дзяцей. Каб захаваць на чужыне свае нацыянальныя традыцыі, звычкі, пацягнуліся беларусы і ўкраінцы шчыльней адзін да аднаго і заснавалі ячэйкі братэрства, клубы суайчыннікаў. Да таго ж і цяжкасці адаптацыі лягчэй было пераадольваць супольна. Клубы трохі падсаблялі і матэрыяльна.

Непрыняццё сацыяльнай несправядлівасці, барацьба за свае жыццёвыя правы разам з працаўнікамі „краіны-амфітрыёна“ прыводзіла палітычных і эканамічных імігрантаў у рады класавых барацьбітоў, а генетычнае пачуццё міжнароднай салідарнасці — на франты рэспубліканскай Іспаніі. Там ваявалі нашыя аргенцінскія суайчыннікі: Курыловіч, Федаровіч, Шпак, Тур і інш. (Заканчэнне будзе)

**Кастусь Шалястовіч**

# ДАПАМАГАЦЬ СУАЙЧЫННІКАМ

(Працяг са стар. 1)

нізуем нашую работу, каб магчыма поўнасцю забяспечыць культурныя патрэбы нашых партнёраў. Штогод арганізуем курсы для ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці (на працягу трох тыдняў), піянерскі лагер улетку для дзяцей (для 20 асоб), запрашаем 6-8 чалавек на адпачынак і лячэнне ў санаторыі, уладкоўваем маладых беларусаў з розных краін на вучобу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы і абяспечваем іх стыпендыяй — 100 рублёў у месяц. Дасылаем беларускім арганізацыям за мяжой наш тыднёвік „Голас Радзімы“, бібліятэчкі класікі беларускай і рускай літаратуры, тэматычныя выстаўкі, дакументальныя, асветныя і дзіцячыя кінафільмы, грампласцінкі і брашуры. Прымаем таксама людзей, якія прыязджаюць у БССР па прыватных візах, дапамагаем ім пазнаёміцца з жыццём нашай рэспублікі, з яе гісторыяй і культурай.

**— Як на фоне агульнай дзейнасці выглядае супрацоўніцтва з БГКТ і ў чым яно заключаецца?**

— Кантакты з Беларускім грамадска-культурным таварыствам у Польшчы наладзілі мы толькі ў 1988 годзе і з'яўляецца гэта адным пунктам з вынікаў сустрэчы кіраўнікоў нашых партый Войцеха Ярузельскага і Міхаіла Гарбачова ў 1987 годзе. Ужо ў мінулым годзе БГКТ накіравала трое дзяцей у піянерскі лагер, арганізаваны нашым таварыствам, пяць асоб прымала ўдзел у курсе мастацкай самадзейнасці. Дасылаем усе перыядычныя выданні, якія запатрабавала БГКТ, а ў нас папулярызуем ваш тыднёвік „Ніва“ (у самім Мінску падпісвае „Ніву“ 867 асоб). Па нашай ініцыятыве Міністэрства народнай адукацыі БССР праз Гродзенскі абласны аддзел народнай асветы дастаўляе патрэбныя падручнікі для школ з беларускай мовай навучання на Беласточчыне. У 1989 годзе прадбачваем запрасіць 5 вучняў у піянерскі лагер, 5 асоб на курсы ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, двух ветэранаў-дзеячоў БГКТ на адпачынак і лячэнне ў санаторый. Трое выпускнікоў беларускіх ліцэяў паступіць на далейшую вучобу ў Інстытут культуры. Зараз дзве жанчыны, накіраваныя БГКТ, знаходзяцца ў Мінску на курсе вышывальніц. Працуем таксама над стварэннем магчымасцей арганізаваць для школьнікаў і ліцэістаў з Беласточчыны экскурсіі на сваіх аўтобусах у Беларусь.

**— Старшыня Прэзідыума Беларускага таварыства „Радзіма“ Міхаіл Савіцкі нядаўна ў інтэрв'ю для „Голасу Радзімы“ гаварыў аб патрэбе дапамогі ў будаўніцтве Беларускага музея ў Гайнаўцы. Ці сёння можна ўжо сказаць, што такая дапамога будзе?**

— Наша таварыства выступіла ў Савет Міністраў БССР з прапановай адкрыць у Жылсацбанку г. Мінска рахунак на збор фінансавых сродкаў з мэтай пакупкі ў Беларусі тэхнічнага і тэхналагічнага абсталявання і інвентару для патрэб Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Ужо ёсць згода з боку Савета Міністраў, каб адкрыць такі рахунак пры Беларускім таварыстве „Радзіма“, і зараз гэтая справа афармляецца ў фінансавых і банкавых уладах.

**— Якая структура вашага таварыства?**

— Найвышэйшым органам Беларускага таварыства „Радзіма“ з'яўляецца рэспубліканская канферэнцыя, якая адбываецца кожныя 5 год. Прымаюць у ёй удзел дэлегаты — прадстаўнікі ўстаноў-заснавальнікаў. Канферэнцыя выбірае 51-асабовы Савет, а з яго членаў — 11-асабовы Прэзідыум, а таксама рэвізійную камісію. Штодзённай працай Таварыства кіруе Бюро Прэзідыума, у састаў якога ўваходзяць: старшыня, двух яго намеснікаў і рэдактар „Голасу Радзімы“. У Беларускім таварыстве „Радзіма“ працуе 8 чалавек на поўных стаўках і 3 асобы на паўстаўкі. У Брэсце знаходзіцца аддзел нашага таварыства, дзе працуе адзін чалавек. Вось такімі сіламі вядзем нашую праграмную дзейнасць з суайчыннікамі за рубяжом, дапамагаем ім падтрымоўваць шырокую сувязь з радзімай.

**Вёў інтэрв'ю В. Луба**




(Працяг са стар. 3)

шматтомнікі графаманаў, макулатурныя выданні! Нічога трагічней ад высокапастаўленага пісьменніка, якому пры жыцці б'юць паклоны, а пасля яго смерці — цывільнай або фізічнай — кідаюць у забыццё, не сказаўшы хаця б „амін“. Гэта так суддзя Час выносіць свой прысуд.

Злосць працінае мяне, бы адліжны вецер у снежным полі: літаратурную творчасць нельга падзяляць на нейкія штучныя катэгорыі тыпу „сялянская проза“, „вясковая плынь“! Такое маё абурэнне ад прачытанага ў кніжыцы „Светлы міг“. Сацыёлаг вызначыў бы паэзію Яна Чыквіна як драму вёскі ў горадзе. І што гэта тлумачыць у літаратурным сэнсе? Дакладна столькі, колькі, напрыклад, сказаўшы пра „Пана Тадэвуша“, што гэта паэтызацыя адышоўшага ў нябыт шляхецкага двара... Ці мала было такіх паэтызацыяў, а чаму толькі пра гэту адну памятаем і чытаем? Адказ на пытанне быў бы адказам наконт тайніцы мастацтва мовы.

Гліна для ўсіх адна, але вылепленыя з яе фігуры не ў кожнага такія самыя. І ўсё роўна, дзе гэтая гліна ляжыць — пад узгоркам ля Дубічаў-Царкоўных, адкуль Ян Чыквін, ці ля цагельні ў прамысловым квартале Беластока. Гліна тая ж, але рукі не тыя. Так і з літаратурай (якую лепяць з пакладаў мовы).

**Сакрат Яновіч**

## ВУЧНЁЎСКІ КААПЕРАТЫЎ

У апошні час адбыліся справаздачна-выбарныя сходы ў вучнёўскіх спулдзельнях. У Гайнаўскім раёне дзейнічае 29 такіх кааператываў. На 8285 вучняў — членаў кааператываў — 4171, што дае больш чым 50 прац. У горадзе Гайнаўка працуе 6 кааператываў, а ў вёсках — 23.

Галоўныя галіны дзейнасці гэта: крамы — 27, агарод — 5, макулатура і лом — 10, другое снеданне — 17, культурна-асветная і грамадская дзейнасць — усе 29. Апекунамі з'яўляюцца настаўнікі. Найдаўжэй з вучнёўскімі кааператывамі працуюць: Лявон Сцепанюк з Дубіноў — 20 год, Янка Іванюк з Нарвы — 24, Рышард Масілевіч з Грабаўца — 31, Лідзія Бэбко з Новага Беразова — 27, Ігнат Рошчанка з Дашоў — 25, Параскева Рушук з Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы — 33 гады.

Варта адзначыць, што ў раёне выпрацавана 858202 зл. чыстага прыбытку, а найбольшы даход дасягнулі спулдзельні: „Жаваранак“ з ЗСЗ у Гайнаўцы (апякун — Людміла Верамюк) — 141756 зл., „Клекс“ — школа № 5 у Гайнаўцы (Тэрэса Жэбpsроўская) і „Пчолка“ — ліцэй № 9 у Гайнаўцы (Ніна Кірылюк).

**Аляксандр Закройшчык**

## Свойскія малюнкі



*Беласток. Вул. Варынскага. Малюнак У. Петрука.*

# ПОДСТУП ДА СЛОВА

Усё яшчэ маем небагата мерапрыемстваў для моладзі, якія выклікалі б зацікаўленне роднай мовай, спрыялі б пашырэнню і замацаванню культуры беларускага слова. Трымаемся формаў досыць традыцыйных, перш за ўсё конкурсаў, дэкламатарскіх або чытальніцкіх. Як правіла, удзельнікаў набіраем са школ, у якіх вядзецца навучанне беларускай мовы, пакідаючы па-за ўвагаю тых, якія з беларускай літаратурнаю мовай сутычнасці не мелі. Вядома ж, уздзеянне такога роду мерапрыемстваў абмяжоўваецца ў асноўным колам саміх удзельнікаў. Прытым, варта тут нагадаць, у сучасны момант кантакт з друкаваным культурным словам з'яўляецца даволі элітарнай праявай у памкненнях спажыўцоў культуры канца XX стагоддзя. Верх бяруць такія формы „культурнага буфета хуткага абслугоўвання“, як тэлебачанне, кіно, відэа, якія падаюць нам духоўную страву ў пераж аваным выглядзе, каб мы, крый Божа, занадта не змучыліся, калі ўжо наважымся яе пераварыць. Дык вось, не маючы ўласнага тэлебачання ні нат відэа, мусім ісці самым крутым шляхам, прытым не спадзеючыся на поспехі ў шырэйшым абсягу. Падбадзёрвае аднак тое, што ўжо паявіліся першыя ластаўкі новага ў нашым асяроддзі вырашэння папулярызацыі беларускага слова: маю на ўвазе дзейнасць Янкі Морданя з маладзёжнай тэатральнай групай „Парнас“ і з аматарскім тэатральным калектывам у Паўлах. Шлях тут, можа, нашмат цяжэйшы за ўсялякага роду конкурсы, але ж абяцае ён намнога шырэйшы грамадскі рэзананс.

Пакуль што, аднак, вернемся да конкурсу. Сёлетні дэкламатарскі конкурс для вучняў сярэдніх школ меў назоў „Беларуская прырода ў паэзіі і прозе“ і праводзіўся ён у Гайнаўскім доме культуры 7 красавіка. Шэфстваваў над цэлай імпрэзай не хто іншы, як Янка Мордань, які раней быў апрацаваў правілы конкурсу і з самаадданасцю дабіваўся ад раённых інспектараў асветы нейкага граша на ўзнагароды для пераможнікаў. Заўважым тут, што конкурсы для школьнай моладзі БГКТ праводзіць супольна з Кураторыяй асветы і выхавання ў Беластоку. Янка Мордань быў крыху прыгнечаны і знерваваны: назначаны ім тэрмін конкурсу з нейкіх прычын быў перасунуты амаль на месяц пазней. Удзельнікаў прыехала каля 30, але большая частка іх не была пазначана ў ягоным спіску, коратка кажучы, ва ўсім наглядаўся аблюбаваны намі ад маленства беларускі балаган. Гэта ўжо апошні раз, калі я бяруся за конкурсы, паціху прызнаўся мне Янка Мордань. Але не быў бы ён сабою, калі б паддаўся суб'ектыўным настроям. Пасля кароткай размінкі, падчас якой удзельнікі пад наглядам інструктаркі з Гайнаўскага дома культуры развварушылі свае языкі і нарыхтавалі горлы, конкурс рушыў поўным махам



*Дэкламуе Давід Харкевіч.*

У журы конкурсу засядалі Міра Лукша, Віктар Стахвюк, Віктар Швед і Сакрат Яновіч. У выпадку вылучэння да ўзнагароды „Нівы“ права дарадчага голасу меў і аўтар гэтага артыкула. Зала была перапоўнена слухачамі: перш за ўсё прыйшла моладзь з гайнаўскага ліцэя, каб падбадзёрыць сваіх выступаючых аднакласнікаў і сяброў, а таксама ж, як здагадваюся, каб „сарвацца“ з некалькіх урокаў. Прысутнічалі настаўнікі беларускай мовы з ліцэяў: Вера Рышчук і Васіль Сакоўскі. У размове са мною тэму конкурсу яны ацанілі як цікавую, на якую можна знайсці багацце матэрыялу ў беларускай паэзіі і прозе.

Кожны ўдзельнік (адзначым, што ў конкурсе дамінавалі дзяўчаты) выступаў з двума тэкстамі, паэтычнага і празаічнага характару. Адносна разнастайнасці прадстаўленых тэкстаў меркаванне настаўнікаў не пацвердзілася: сярод аўтараў перавагу займелі Купала і Колас, а асабліва той апошні, чые „Новая зямля“ і ў „Палескай глушы“ выкарыстоўваліся звыш дзесятка разоў. Уплыў школьнай праграмы навучання беларускай літаратуры быў тут відочны. Былі ўсё-такі і болей неардынарныя выбары: некаторыя выступалі з тэкстамі нашых „белавежцаў“, Давід Харкевіч з Бельска прадставіў тэксты пра варону Глобуса і Масарэнкі, пераможніца конкурсу дэкламавала тэксты Разанава і Караткевіка, некалькі асоб выбрала сабе фрагменты „Пана Тадэвуша“ ў перакладзе Семяжона.

Узровень конкурсу быў высокі. Так яго ацаніла журы. Аж здзіўленне мяне бярэ, што моладзь так прыгожа дэкламуе беларускія тэксты, калі ўжо практычна па-беларуску між сабою не размаўляе, сказаў на пасяджэнні журы Сакрат Яновіч. Але тут жа дадаў засцярогу, што не ўсе ўдзельнікі былі належным чынам прапушчаны праз сіта школьных элімінацый. Віктар Швед звярнуў увагу на тое, што конкурс выявіў шмат цікавых галасоў, вартых таго,



*Ідзе падрыхтоўка да выступленняў. Трэба крыху развварушыць язык. Злева, паглыблены ў папуры роздум, Янка Мордань.*

## Эпізоды вайны

**(Працяг са стар. 1)**

Ідзем на смерць. А мёртваму, вядома, нічога не патрэбна. „Я дацэнт Львоўскай палітэхнікі, — сказаў мне афіцэр. — А ты? Ты непісьменны ў параўнанні са мною“.

Пыхлівасць у яго была вельмі вялікая. „Чакай, я ўжо абстраляная птушка. А ты толькі валодаеш ведамі“, — падумаў я. Афіцэр думаў, што ён усё ведае, але не ведаў, што на вайне патрэбна вялікая мудрасць ды пакорнасць. Іначай — куля ў лоб.

„Гэта праўда, — сказаў я. — Не магу з вамі зраўняцца. У нашай службе неабходна вышэйшая адукацыя — тэхнічная і геаграфічная...“ З жалю ды крыўды мяне ўсяго моцна трэсла... А тут перад вачыма стала рака Псёл, ля горада Сумы. Там, каб не кусцік, на беразе ракі, ужо даўно на мне быў бы насыпаны капец зямлі.

Узяў я сваіх салдатаў. Пайшлі 14 км пяшком. Дайшлі да месца. Я адшукаў камбата 76-міліметравых гаўбіц.

„Дарагі камбат! Дапамажы!.. Іначай ужо не пабачым: ты сваёй ракі Варсклы, а я Студзеніцы. Зарадзі гарматы дымамаскіравальнымі снарадамі і а гадзіне 20.00 дасі ў тапаграфічны квадрат У 3-4 залпы, з усіх батарэй адначасова. Там мы павінны даследаваць магчымасць пераправы танкаў „Т-34“. Служу Радзіме!“ Аддаў яму чэсць ды пайшлі далей.

Даходзіць 20.00, ноч. Чую гул кананады. Лічу: адзін, два, тры... Заходні бераг Одры ахутаны туманам. Да работы, салдаты!

Вярнуліся мы ў вызначаны час. Аддалі план і лакалізацыю пераправы. Цераз гадзіну прыйшоў ранены бурыльшчык з групы афіцэра. Нагавіцы ў крыві. А дзе рэшта? „Забілі іх, таварыш генерал! Ляжаць у даліне. Пад абстрэлам праціўніка...“

Ніхто не ведаў, што мае звяно ахоўвалі артылерысты ды снайперы. Дзякуючы таму я сёння хаджу па гэтым свеце.

**Барыслаў Рудкоўскін**

## ЛЕПЕЙ ВЫП'ЕМ

Каля кіёска збіраюцца мужчыны два разы ў дзень. Раніцай, каб ісці разам да працы, а вечарам, каб пайсці ў бар.

Сёння раніцай таксама сабраліся.

— Пойдзем да працы? — спытаў Міраслаў.

— Чаго ісці? — скрывіўся Марэк. — Працуеш як вол і што з таго? Мала плацяць!

— Праўда, — згадзіўся Міша, — каб так працаваў у Амерыцы, то зарабіў бы столькі, што за месяц збудаваў бы сабе вілу.

— Як сабе хочаце, — сказаў Валік, — а я не пайду. Лепей вып'ю. „Мэты“ яшчэ ёсць.

— То не пойдзем, — сказаў Марэк.

Махнулі рукамі і пайшлі ўсе да Крысі за гарэлкай.

Гэта паўтараецца што некалькі дзён. Пасля пры выплаце наракаюць, што мала ім плацяць і прэміі не даюць.

**Аўрора**

Новы гаспадарчы разлік

## ТВАРАМ ДА КЛІЕНТА

Калісьці вясковы чалавек з кожнай „жалезнай“ патрэбай звяртаўся да мясцовага каваля. Няма ўжо ў нашых вёсках ні каваля, ні яго кузні. Ды наўрад ці справіўся б сёння традыцыйны каваль з рамонтам багатай сельскагаспадарчай тэхнікі, якая шырока задамовілася на нашых вёсках. Ролю кузні ўзялі на сябе ў наш час прыватныя рамеснікі, але найчасцей — дзяржаўныя машынныя гаспадаркі — ПОМы.

Ёсць такі ПОМ у Нарве. Гэта адзін з большых у нашым рэгіёне асяродак рамонту машын і сельгастэхнікі. Працуе тут каля 200 чалавек. ПОМ займаецца паслугамі для насельніцтва і вядзе сваю прадукцыю — займаецца капітальным рамонтам грузавікоў маркі „Стар“ і вырабам некаторых машын і частак да іх.

У паслугах для мясцовага насельніцтва ПОМ прызнае сялянам 30 працэнтаў зніжкі ў аплатах. Гэта для таго, каб мясцовыя жыхары не шукалі далёка ад сваіх вёсак спецыялістаў па рамонту сялянскай тэхнікі. Дробныя ж слясарныя ці такарныя паслугі ПОМ выконвае нават без чаргі, адразу.

Але паслугі — гэта толькі частка гаспадарчай дзейнасці. Каб ПОМ мог існаваць, павінен даваць даход сабе і дзяржаве. У наш час кожнае прадпрыемства павінна быць рэнтабельным і патрэбным, а таксама павінна ўмець стварыць для сваіх ра-



*Зваршчык Яўген Вэйкоўскі з Адрынак у час працы над печкай.*

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

Дагэтуль мы спрабавалі вандраваць слядамі князя Юрыя-Вітаўта-Аляксандра, калі ён змагаўся за вяртанне да Вялікага княства Літоўскага і замацаванне ягонай улады на адлеглых усходніх і паўднёвых ускраінах дзяржавы. Сёння ж прасочым, як гэты геніяльны будаўнік магутнасці Старабеларускай дзяржавы ўладкаваў справы на заходніх яе рубяжах, гэта значыць, на тэрыторыі сённяшніх Беластоцкага, Сувальскага, Ломжынскага, Сядлецкага, Белападляшскага і Хэлмскага ваяводстваў.

У „Шляхам гадоў“ ужо неаднойчы згадвалася, што працяглым змаганнем паміж Кейстутавічамі і Альгердавічамі за ўладу ў Вялікім княстве Літоўскім сквапліва карысталіся суседзі ды, дзе толькі далося, адкусвалі па кавалку яго ўладанні. Перш за ўсё, як вядома, квапіліся на іх крыжакі, але і іншыя таксама не драмалі. Здаўна прыналежныя Вялікаму княству землі між ніжнім цячэннем ракі Бобра (сённяшняй Бебжы) і сярэднім Нарвы, у канцы XIV стагоддзя апынуліся пад уладай князёў мазавецкіх. Тыя ж, няпэўныя свае ўлады над імі, прадалі іх разам з Візнаю 2 снежня 1382 года крыжакам за 7 тысяч венгерскіх залатых. Такім чынам ва ўладанні Ордэна апынуліся землі, на якіх цяпер знаходзяцца Ганёндз, Монькі, Кнышын, Ясяноўка — амаль па Харошчу ды Васількаў! У 1388 годзе беларускім воям — пераважна з Гарадзеншчыны і Слонімшчыны —удалося выбіць рыцараў з гэтай тэрыторыі, аднак неўзабаве яна зноў трапіла пад панаванне мазавецкіх князёў. Усё ж Вітаўт пра яе не забыў і справы не занядбаў. Нягледзячы на нядаўняе паражэнне на Варскле, сабраўся з сілаю ды значную частку гэтага абшару — Гонязскую (Ганёндзкую) зямлю аж па ўсходнюю ўскраіну багна Візна і да ракі Нарвы — вярнуў Вялікаму княству Літоўскаму.

У ранейшых адрэзках „Шляхам гадоў“ таксама гаварылася

## ГАСПАДАР

пра тое, што ў 1391 годзе, падчас змаганняў супраць Вітаўта, вялікі князь літоўскі і кароль польскі Якаў-Ягайла-Уладзіслаў даў ва ўладанне князю мазавецкаму Янушу гарады Мельнік, Дарагічын, Бельск, Бранск і Сураж з прыналежнымі да іх землямі — гэта значыць, амаль усё сённяшняе Падляшша! Вядома, што Вітаўт аніяк не мог сцярпець гэтакай страты спрадвечных старабеларускіх, бо належачых яшчэ Тураўскаму княству, зямель, між іншым, уладанняў яго бацькі Кейстута. І ў 1405 годзе запатрабаваў ад свае роднай сястры Анны-Дануты ды швагра Януша звароту гэтага аграмаднага і заможнага абшару. Тыя, вядома, страшэнна абурыліся ды заявілі, што гэтыя землі належаць княгіні Анне-Дануце як спадчына па бацьку. Але Вітаўт доўга не цырымоніўся і, відаць, прыгразіў: калі яны не аддадуць гэтых зямель па добрай волі, то ўсё Мазоўша разам з яго князямі апынуцца ва ўладанні Вільні. Добра ведаючы Вітаўтаву настойлівасць ды маючы неблагое распазнанне пра безліч глыбокіх ды цёмных скляпоў у ягоных замках, Анна з Янушам хуценька заспяшаліся выконваць волю вялікага князя. Праз некалькі дзён на сённяшнім Падляшшы і сляды прасталі па бытнасці тут Янушавых цівуноў і вояў.

Вяртанне Сярэдняга Пабужжа, Панароўя і Гонязскай зямлі да Вялікага княства Літоўскага ў 1402-1405 гадах зусім не абазначала „вылучэння“ іх з „развіцця“ і „прагрэсу“ ды паварот у „літоўскую адсталасць“, як сіляцца даказваць некаторыя польскія гісторыкі, асабліва беластоцкія. Якраз наперакор гэтым надуманым і, далікатна кажучы, далёкім ад праўды сцверджанням усё паказвае, што ўз'яднанне з Вялікім княствам Літоўскім для гэтых зямель адкрывала шырокія перспектывы развіцця і поступу. Перш за ўсё яны перасталі быць каланіяльнай глухаманню, з якой цягнула ўсё, што толькі змагло, Мазоўша — самая адсталая ды самая бедная краіна ў тагачаснай Цэнтральнай Еўропе. Затым Сярэдняе Пабужжа і Панароўе ды Гонязская зямля, таксама як у часах Гедыміна і Кейстута, зноў сталіся для Вялікага княства Літоўскага шырока расчыненымі варотамі ў Еўропу. Разам з ажыўленнем старых гандлёвых шляхоў з Гародні праз Нарву—Бельск—Бярэсце на Люблін і Кракаў і далей на Маравы ці ў Чэхію; або з Вільні праз Ваўкавыск — Камянец — Бярэсце — Уладаву на Львоў і ў Венгрыю ды Італію, ці з Навагр926адка праз Слонім — Ваўкавыск — Бельск — Бранск — Нур на Каліш, Пазнань і ў Нямеччыну і іншых, паўстаюць новыя: з Вільні праз Гародню — Гонязь — Ломжу — Плоцк у Гданьск, або з Менска праз Мір — Слонім — Камянец — Дарагічын у Вялікапольшчу, а таксама рачны шлях з Уладзіміра (Валынскага) уніз па Бузе праз Бярэсце — Мельнік — Дарагічын — Нур, затым Нарвай праз Пултуск — Ломжу — Візну і далей Бобрай (Бебжай) праз Гонязь і з пераваллокай каля сённяшняга Новага Двара ў Нёман, між іншым, кавалкам гэтага шляху, па Бобры, плыў у 1414 годзе вялікі князь Вітаўт. Дзейнічаў таксама рачны шлях з Бярэсця па рацэ Лясной з пераваллокай у Нараўку (відаць, па рэчцы Лутоўні і з таго часу ва ўрочышчы Старая Белавежа захаваліся рэшткі нейкіх ахоўных збудаванняў), пацвярджае тое назва паўднёвай часткі Белавежскай пушчы — Пераваллока.



*Катлы цэнтральнага абагравання па праекту гайнаўскага інжынера Казіміра Кубацкага можна ўжо купляць непасрэдна ў вытворцы — ПОМе ў Нарве.*

бочых добрыя ўмовы працы і адпаведныя да працы заробкі.

У мінулым годзе нараўскі ПОМ прыняў дзяржаўны заказ на выраб новых катлоў цэнтральнага ацяплення для індывідуальнага будаўніцтва. Дзеля гэтай прадукцыі ПОМ выкупіў цікавую ліцэнзію на печку інжынера Казіміра Кубацкага з Гайнаўкі. Печка Кубацкага была апатэнтавана пад назвай кацёл-мадэратар. Яна атрымала энергетычны атэст міністра прамысловасці і ацэнена была як вельмі эфектыўная (спраўнасць 73 працэнты). Печка спальвае ўсе віды паліва — драўнінныя апілкі (траціны), вугаль усялякі, адпадкі драўніны, торф, ды наогул усё, што можа гарэць і выдзяляць цяпло. Дзве косткі прасаванай саломы патрэбны для таго, каб нагрэць ваду ў катле да 70 градусаў.

ПОМ у Нарве пачаў прадукцыю печак у трох версіях: для аднасямейных дамоў, нават двухпавярховых, для двухсямейных дамоў і для шклярань. Зроблена ўжо 700 штук. Усе былі прададзены. На гэты год ПОМ плануе зрабіць 1000 такіх печак. Да гэтага часу печкі з нараўскага ПОМу можна было купіць толькі на складах „Агромы". Цяпер жа, з думкай аб сваіх кліентах і ў рамках новай гаспадарчай палітыкі, ПОМ пачынае продаж сваіх печак на месцы, у Нарве — проста ў ПОМе ці ў нараўскім ГСе. Гэта дазволіць знізіць цану печак на 14 тысяч злотых. Ды і людзям зручней браць тавар проста на месцы, дзе можна добра прыглядзецца да печкі, параіцца са спецыялістамі, лепш ацаніць прыдатнасць гэтага вырабу для індывідуальных патрэб будаўніцтва.

Спецыялізуецца ПОМ і ў вырабе прычэп для перавозкі доўгіх бярвенняў ці іншых вельмі доўгіх прадметаў (50 штук у год), а таксама выpабляе барты для растрасачак гною. Пакуль што зрабілі першыя 4 тысячы штук, а ў далейшым плануецца павялічыць гэту прадукцыю да 20 тысяч штук у год.

На ўсе ПОМаўскія вырабы ёсць пакупнікі. Можна было б значна пашыраць прадукцыю, але не хапае кваліфікаванай рабочай сілы, асабліва патрэбны зваршчыкі. У гэтым годзе ў ПОМе будзе аб'яўлены набор вучняў у прафесіянальную школу. Прынятыя вучні будуць вучыцца ў гайнаўскай прафесіянальнай школе, а практыку будуць праходзіць у нараўскім ПОМе. Усім выпускнікам гэтага набору ПОМ абавязаўся даць працу. А каб вучні ахвотна вярнуліся працаваць у гэты ПОМ, адміністрацыя ПОМа падумала пра стварэнне рабочым добрых умоў працы, адпаведнае сацыяльнае забеспячэнне і добрыя заробкі. Паколькі значная частка рабочых даязджае з суседніх вёсак, пры ПОМе працуе рабочая сталоўка, ёсць выгодныя раздзявальні, умывальні з душам, пральня і майстэрня для рабочага адзення. Ёсць рабочы інтэрнат, а таксама аддадзены ўжо працаўнікам ПОМа 36 кватэр. Гэтай вясною выходзіць на пляц будовы ПОМаўскі жыллёвы кааператыў. Першыя 60 кватэр аддадзены будуць у карыстанне ў наступным годзе.

Як бачым, новыя прынцыпы гаспадарання — дакладны гаспадарчы разлік, рэнтабельнасць прадпрыемства, дбайнасць пра рабочых і пакупнікоў — усё шырэй зазначаюцца ў нашым сённяшнім жыцці.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара



*Такія грузавыя прычэпы таксама прадукуе нараўскі ПОМ.*

Гэтыя шляхі, асабліва пасля разгрому крыжакоў пад Грунвальдам у 1410 годзе, не пуставалі; імі ехалі ў абодва бакі не толькі купецкія абозы ды імчаліся ганцы, але і прыбывалі ў Вітаўтаву дзяржаву рамеснікі, сяляне, а таксама — па ўзроўню тых часоў — людзі адукаваныя: медыкі, юрысты, архітэктары, мастакі, прыходзіла каталіцкае духавенства „белае" і „чорнае", гэта значыць ксяндзы і манахі. Вітаўтавы цівуны і іншыя ураднікі клапаціліся засяляць „пусткі" па паселішчах, зніштожаных крыжакамі, заахвочвалі выпальваць ды выкарчоўваць лясы і надрэчныя нізіны ды „вырабляць" іх на палеткі і сенажаці. У часы панавання Вітаўта прыбывае многа збяднелай мазавецкай і малапольскай шляхты ў Бельскую (ваколіцы Бранска, Суража) і Дарагічынскую (ваколіцы Дарагічына, Цеханоўца, Сакалава), з паўднёвага ўсходу ў Дарагічынскую (ваколіцы Гарадзішча, Расошы, Лосічаў, Мельніка) і Бельскую (ваколіцы Мілейчыцаў, Кляшчэляў, Орлі) наплывае насельніцтва з Палесся і Валыні. З усходу ж — з Гарадзеншчыны, Наваградчыны, Слонімшчыны, а таксама з далёкай Віленшчыны і суседняй Трокскай зямлі беларускае сялянства, вольны гарадскі люд, збяднелае баярства, нярэдка з прымешкай карэнных літоўцаў (летувісаў) і жмудзінаў, але над усім гэтым наплывовым элементам верх брала беларускае насельніцтва і надавала гэтаму рэгіёну беларускі нацыянальны характар.

Наколькі землі над верхняй Нарвай і сярэднім Бугам цаніліся вялікімі князямі літоўскімі і якую важную ролю адыгрывалі яны ў Старабеларускай дзяржаве, найбольш пераканаўча сведчыць тое, што першым гарадам у Вялікім княстве Літоўскім і адначасова першым беларускім горадам, які атрымаў самакіраванне па магдэбургскаму праву, было Бярэсце — сталіца сярэдняга Пабужжа і верхняга Панароўя. Даў гэты прывілей вялікі князь літоўскі і кароль польскі Ягайла ў 1390 годзе, між іншым, як напісана ў каралеўскай грамаце *„дзеля лепшага парадку і хочучы становішча нашага места Берасцейскага на вышэйшы ўзровень узняць для агульнага дабра з права рускага ў нямецкае пераводзім на вечныя часы... Такім чынам вызваляем і звальняем усіх мяшчанаў і грамадзянаў места нашага Берасцейскага нямецкай, польскай і рускай веры і ўсіх хрысціян ад судоў, падпарадкавання, моцы і з-пад улады ураднікаў нашай дзяржавы — ад кашталянаў, старастаў, ваяводаў, дзяржаўцаў, суддзяў, падсудкаў і ўсялякіх намеснікаў, таксама ад дзецкіх..."* (Аказваецца, ужо і ў тыя часы бюракратаў у нас было хоць ты гаць гаці!) Такое ж самакіраванне па магдэбургскаму праву ў 1391 годзе атрымала Гародня і толькі ў 1397 годзе сталіца Вялікага княства — горад Вільня.

Гэтую традыцыю не толькі працягваў, але і ўсебакова развіваў князь Вітаўт. Ён клапаціўся пра росквіт гарадоў на любым яго сэрцу Пабужжы: у 1408 годзе пацвярджае дадзенае ў 1390 г. Ягайлам магдэбургскае права. У наступным, 1409 годзе, самакіраванне па магдэбургскаму праву Вітаўт дае Дарагічыну, перад 1424 годам гарадскія польскія і рускія правы атрымлівае ад яго Саколаў, перад 1429-30 гадамі магдэбургскае права ён даў Бельску і Цеханоўцу. За Вітаўтавага панавання ў Вялікім княстве Літоўскім цяжка знайсці другі такі рэгіён, дзе б знаходзілася столькі, як на Пабужжы і Панароўі, гарадоў з самакіраваннем па магдэбургскаму праву.

У іх буйна развіваліся ўсе віды рамяства, у тым ліку і залатарства, мясцовы і міжнародны гандаль, абслугоўванне замежных купцоў і падарожных і г.д. Неабходна заўважыць, што ўсё гэта патрабавала адукаваных людзей, добра валодаючых граматай, арыфметыкай, іншаземнымі мовамі, добра азнаёмленых са звычаямі, гаспадаркай і культурай у суседніх і адлеглых краінах. Таму тут, пры кожнай царкве і манастыры дзейнічалі школы, у якіх вучыліся не толькі баярскія ці мяшчанскія дзеці, наведвала іх таксама сялянская дзятва. На высокі ўзровень навучання ў тадышніх школах Пабужжа і Панароўя паказвае немалая колькасць студэнтаў у Кракаўскім універсітэце, якія паходзілі з гэтых бакоў. Варта прыгадаць, што ў часы рэктарства ў гэтым універсітэце дарагічынскага князя Яна — унука вялікага Кейстута (мабыць, гэта быў сын князя Бутаўта Кейстутавіча па імю Вайдута, які ўзімку 1381 года ўцёк да крыжакоў (адрэзак „Бацька і сын", „Ніва ад 9.VIII. 1987 г.), закончыў адзін з заходніх універсітэтаў і на хрышчэнні па каталіцкаму абраду прыняў імя Ян) у гэтай вышэйшай школе займалася асабліва многа моладзі з Вялікага княства Літоўскага, ну, і вядома, найболей — з уладанняў самога рэктара, а тадышняя Дарагічынская зямля ахоплівала амаль палову сённяшняга Падляшша.

У навале штодзённых спраў і вырашэнні вялікіх дзяржаўных праблемаў князь Вітаўт усё ж не забываў пра ўладанні Вялікага княства Літоўскага, якія ўсё яшчэ знаходзіліся пад панаваннем яго мазавецкай радні — Януша і Анны. У другой палове 1425 года ён звярнуў Вялікаму княству шырокае пасма зямель з гарадамі Тыкоцінам, Высокім (Мазавецкім), Нурам і Венгровам, устанаўляючы граніцу з Мазоўшам ад вусцяў рэк Бобра (Бебжа) і Сліны ў Нарву аж па вусце ракі Нурэц у Буг, затым уніз па Бузе за сённяшнюю Малкінню, потым па рацэ Ліўцы на поўдзень пад Парчэў і за Уладаву на Бузе. Адразу паклапаціўся пра гаспадарчае развіццё гэтага абшару (між іншым, у 1425 годзе прызнаў магдэбургскае права Тыкоціну) і яго з'яднанне з Вялікім княствам, а па ўсёй адноўленай бацькавай ды дзедавай граніцы загадаў абнавіць ранейшыя ды пабудаваць новыя ўмацаванні.

**Мікола Гайдук**

Зорка
старонка для дзяцей

## Для самых маленькіх

Вісарыён Габрук

### МОЦІК-АБАРОЦІК

Жыве на нашай вуліцы хлопчык. Завуць яго Моцік-абароцік. Спачатку хлопчыка звалі толькі Моцік. І быў ён, як усе хлопчыкі. А калі крыху падрос, дык пачаў больш глядзець не наперад, а назад.

Ідзе Моцік з мамай па вуліцы і ўвесь час азіраецца. Паверне галаву назад і ідзе. Маці яму кажа:

— Перастань!

А Моцік адказвае:

— Мне так цікавей. Калі я гляджу толькі наперад, дык не бачу, што робіцца ззаду.

Вось і пачалі яго зваць Моцік-абароцік.

Сядзе Моцік абедаць, заглядзіцца на што-небудзь ззаду і нясе лыжку міма рота да вуха. Ды яшчэ і перакуліць часам. Пачне есці мяса і павернецца, каб паглядзець, што за акном робіцца.

Круціцца Моцік, а сабачка Жучок даўно за ім сочыць. Падскочыць Жучок да відэльца, — гам! — і няма мяса.

— Мама! — плача Моцік. — Сабака мяса схапіў.

— Так табе і трэба! — кажа маці. — Не круціся за ядой, не аглядвайся назад.

Ды хіба Моцік паслухаецца! Ён вельмі ўпарты хлопчык. Пра яго нават песеньку склалі:

Моцік, Моцік,
Абароцік!
Шлёпнуўся на паваротце,
Збіў аўтобус і трамвай,
Плача: „Мама, ай-я-яй!“

Выйдзе Моцік на двор, разбяжыцца і раптам спалохаецца: а ці не прапусціў ён чаго цікавага ззаду? Паверне галаву назад, а сам бяжыць, пакуль не спатыкнецца або не ўпадзе.

Лоб у Моціка-абароціка заўсё-

(Працяг на стар. 10)



*У этнаграфічным куточку ў школе ў Храбалах ёсць шмат цікавых збаночкаў, кубкаў старой сялянскай работы, нават дваяк і маслабойка. А Кася Коршак — удзельніца дэкламатарскага конкурсу для школьнікаў. Сёлета яна дэкламавала урывак „Буслы“ з апавядання А. Дударава.*



*Васьмікласніцы са школы ў Храбалах — Міраслава Міранюк, Зося Гліва і Бася Нікалаюк.* *Фота Яніны Чэрнякевіч.*

## ДА ДНЯ ПЕРАМОГІ

Васіль Хомчанка



### ТАНК У ПАЛОНЕ

Аднойчы я гасцяваў у вёсцы на Магілёўшчыне і пайшоў у лес па грыбы.

Быў канец верасня — самая грыбная пара. Нядаўна прайшлі дажджы, чыстыя і цёплыя. Грыбоў павылазіла, хоць касой касі.

Іду ў лес і нізка кланяюся кожнаму грыбу. Доўга хадзіць не давялося, кошык хутка напоўніўся баравікамі. Прысеў на купіну адпачыць перад дарогай і ўбачыў каля сябе яшчэ адзін крэпенькі баравік. Зрэзаў, трымаю ў руцэ, любуюся і заўважаю на шапцы грыба нібы гузак нейкі. Дакрануўся — цвёрдае нешта. Калупнуў — куля! Ад нашай вінтоўкі. Гадоў трыццаць іржавела ў зямлі, і вось баравік вынес яе наверх. Разглядваю кулю і думаю: чыя яна? Забіла яна каго ці параніла? Тут жа ў вайну ішлі вялікія баі.

Устаю і пачынаю шукаць у лесе яшчэ якія-небудзь сляды вайны. Убіваюся ў гушчар, і там, каля ўзбалотка, бачу такое, што спачатку не веру сваім вачам. Бачу... танк!

Падыходжу да яго. Танк не наш, фашысцкі. Стаіць, асеўшы адным бокам у зямлю. Вежа сарвана, адбіты ствол гарматы. Скрозь пралом у танку расце бяроза, ужо вялікая. І вакол танка стаяць такіяж бярозы, узяўшы яго ў палон. Хоць і мёртвае жалеза, ды варожае, некалі смерць сеяла на зямлі, і яго нельга выпускаць на волю.

З-пад днішча танка дуб расце. Крывы дубовы сук, падобны на чалавечую руку, тырчыць над танкам і нібы гаворыць:

„Чаго ты сюды прыйшоў? Хто прыгнаў цябе на нашу зямлю? Вось і гібей тут.“

Недалёка і акопы ўбачыў, хоць яны асыпаліся і зараслі травой.

Сумна мне зрабілася ад гэтых убачаных акопаў, куль, танка. Вунь калі вайна скончылася, а сляды яе і цяпер засталіся на зямлі.

І яшчэ падумалася: ну што б людзям з таго металу не танк для вайны зрабіць, а нешта патрэбнае для мірнай працы чалавека.

Колькі б карысных рэчаў выйшла!

Рыгор Барадулін

### БАЦЬКУ

Не выйшаў ты і ў гэты раз
Мяне спаткаць, паднесці рэчы...
Ля весніц толькі зноў твой вяз
Кранў галінамі за плечы.

Ты мне не падасі рукі,
Глядзіш удаль з-пад шкла
партрэта...
Ці бачыш, вырас сын які?
Скажы хоць слова для прывета.

(Працяг на стар. 10)

Мар'ян Дукса

### ВЯСЕННІЯ МЕЛОДЫІ



Усе нясуць вясне
Узбуджанасць вялікую,
Сініца на сасне
Цілікае, цілікае.

Яна да голля туліцца,
Між дрэў шчасліва лётае.
Вось-вось канцэрт адбудзецца —
„Вясеннія мелодыі“.

Аб гэтым — чуў я сам
Пра свята недалёкае —
Пушчанскім жыхарам
Аб'яўлена сарокаю.

Над люстраю ракі,
Дзе гнуцца лозы ніцыя,
Пявучыя шпакі
Паселі: рэцэтыцыя.

З травы ўзляціць кулік,
Хітнецца над рабінаю.
Усёй праграмы цвік —
Праграма салаўіная.

Буслы штодзённа ўдаль
Глядзяць — трывогі ўласныя:
— Цудоўна — фестываль...
Чаму ж не бачна ластавак?

Нервуюцца буслы:
— Ну што яшчэ за фокусы!
Шлях, пэўна, не малы,
Але ж пачатак конкурсу...

Сарока у адказ:
— Усё ідзе па графіку.
Яны ляцяць да нас —
Перадавала Афрыка.

Прагульваецца лось,
Рагамі ледзьве рухае.
Спыняецца чагось,
Зачаравана слухае.

„Не песні — дзіўны сон...“
Стаіўся заварожаны.
На фестываль і ён,
Як член журы, запрошаны.

І я ў гушчар залез
Пагутарыць з прыродаю,
Дзе свята на ўвесь лес —
„Вясеннія мелодыі“.

## ДОБРЫ СРОДАК
**(паводле народнага жарту)**

Залясянскі Юрка Хват
Гарадскім зрабіўся,
Слоў замежных ведаў шмат,
Пра свае забыўся.
На паўметра адпусціў
Бараду, прычоску,
Ды паехаў пагасціць
Да матулі ў вёску.
Ён любому здацца мог
Кветкай крыміналу:
Як ступіў цераз парог,
Маці ледзь пазнала.
Супрацьсонечных не здзеў
Акуляраў з носа,
Павярнуўся, паглядзеў
У закутак коса.
На крывую качаргу
Паказаў рукою:
— Нат успомніць не магу,
Што гэта такое.
Папяросу ўзяў, пачаў
Пстрыкаць запальнічкай.
— Ты б з пячурачкі дастаў
Лепш, сынок, сярнічкі, —
Раіць маці Юрасю.
Той расправіў плечы,
Шмаргануў па валассю
І ступіў да печы.
Нос задраўшы, лезе ў кут,
У пячурцы шнарыць,
Толькі раптам штосьці тут
Плясь па акулярах.
Ва ўсё горла, што мага,
Крыкнуў ачмурэла:
— А бадай ты, качарга,
З чараном згарэла!
Маці, ведама, шкада,
Што набіў гузяку,
Толькі кажа:
— Не бяда,
Качарзе падзякуй.
Каб зарокся ты, сынок,
Выракацца роду,
Качарэжкін чаранок
Вельмі добры сродак.

**Пятро Сушко**
*(з кнігі „Восці напагатоў")*



*Урэшце крыху спакою!*

# НІЎКА




*„Палантэ" (Куба).*

## АФАРЫЗМЫ

Той, хто не верыць у тое, што гаворыць, выхоўвае тых, хто не будзе верыць у тое, што робіць.

*

Бываюць слёзы так цяжкія і так гарачыя, што немагчыма іх выплакаць. Западаюць у сэрца, спальваючы яго.

*

Народ чакае, каб збылося штосьці новае, а палітыкі размаўляюць аб рэчах, якія зрабілі і да гэтага зрабілі кепска.

*

Айчына з'яўляецца для большасці іх айчынай, для некаторых — айчынай іх бацькоў і толькі для нешматлікіх, у якіх патрыятызм праяўляецца актыўна, айчынай іх сыноў.

*

Дзіўна, што людзі могуць думаць аб смерці, калі так многа да работы ў жыцці.

**Ніколяе Іорга**

## ЛЯ УЯЗНЫХ ВАРОТ

Каб не звар'яцець і не мець больш палітычных сноў, якія так непрыемна дзейнічаюць на мяне, я рашыў чым-небудзь заняцца, як мне многія ўжо даўно і раілі. Уладкаваўся я на работу. Старажам у наш раённы мясакамбінат.

Праца, можна сказаць, добрая. Не трэба вялікага фізічнага намагання, з людзьмі. І стараўся я не выконваць сумлення. А як сумленна, няхай аб гэтым сведчыць наступнае.

Стаю я раз ля ўязных варот, а тут пад'язджае дырэктарская машына. А як жа, затрымоўваецца. Праўда, што з хваляваннем, але гавару: „Прабачце, пане дырэктар, але дазвольце кінуць вокам у ваш багажнік!" Заглядаю, а там роўненька дзесяць свіных кумпякоў. Я проста, ведаеце, разгубіўся. Язык дзесьці прырос, стаю, як цяля ля маляваных варот. А дырэктар кладзе мне руку на плячо і кажа: „Вось малайчына ты, Мікола, нам такіх лаяльных людзей і трэба. Мы спецыяльна хацелі праверыць сумленнасць нашых працаўнікоў". Дырэктар сеў у аўтамабіль і павярнуў яго назад.

На наступны дзень мяне паклікалі ў кантору і дырэктар урачыста ўручыў мне 4 тысячы злотых узнагароды, за сумленнасць. Гэта мяне моцна падбадзёрыла. Я быў задаволены і ганарыўся сваёй працай.

Праз два тыдні на нашым прадпрыемстве сталі праводзіць праверку штатаў. Зноў мяне паклікалі ў кантору, на гэты раз у аддзел кадраў, і са спачуваннем паведамілі, што ў выніку рэарганізацыі мы развітваемся.

Мне вельмі сардэчна падзякавалі. Зноў мне будуць сніцца цікавыя сны.

**Мікола Рагаты**

## СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### У НЯДЗЕЛЮ У СЛУЦКУ НА БАЗАРЫ
**(народная)**

*У нядзелю ў Слуцку на базары*
*Жонкі мужыкамі таргавалі.*
*Як прыдзецца да ладу,*
*То я свайго павяду да й прадам.**

*Ой, з ніт матузка іссукала,*
*Узяла свайго чалавека, залыгала.*
*Да й павяла на базар,*
*Да цэрніцы прывязала.*

*Як наехалі таргаваці,*
*Як наехалі таргаваці,*
*Сталі думаць і гадаць,*
*Што за майго мужа даць?*

*А за майго мужа трэба даці,*
*А за майго мужа трэба даці:*
*Пару коней вараных*
*Да й сто рублёў залатых.*

*А я стала, падумала,*
*А я стала, падумала:*
*З конямі трэба вадзіцца,*
*З грашмі трэба насіцца.*

*З конямі трэба вадзіцца,*
*З грашмі трэба насіцца.*
*А мой мілы чарнабрывы,*
*Да работы не лянівы —*
*Ён для мяне знадабіцца.*

*Ён пасее, наарэ,*
*Не для кога, для сябе.*
*А мой мілы, сэрданька,*
*Пажалею я цябе! (Не прадам!)*

* *Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.*

• Умерана скора ♩=116

Соло: У ня-дзе-лю ў Слу-цку на ба-за-ры
Хор: жо-нкі му-жы-ка-мі та-рга-ва-лі.
Для 1-5 страф: Як прый-дзе-цца да ла-ду, то я свай-го па-вя-ду.
Для 6 страфы: А мой мі-лы ча-рна-бры-вы да ра-бо-ты не ля-ні-вы — ён для мя-не зна-да-бі-цца.
Для 7 страфы: А мой мі-лы, сэ-рда-нька, па-жа-ле-ю я ця-бе!



*Па гэтай хларафілавай зубной пасце пастаянна мне растуць...*

Двух п'яных сядзіць у машыне.

— Калі мінем мост, паварні направа, — напамінае адзін з іх.

— Добра, добра... а ці гэта не ты вядзеш машыну?

*

— Ці гэта праўда, што жонка цябе кінула?

— А дзе ж там! У яе ўсё канчаецца толькі на абяцанках.

*

Лекар пытаецца ў пацыента:

— А як там вашая памяць?

— Дзякую, ужо лепш... А кім вы будзеце, што гэта вас цікавіць?

*

— Якое сёння чысло? — пытаецца п'яніца.

— Сапраўды не ведаю, але зараз гляну ў кашалёк — і будзе ўсё вядома.




**Забароненыя плод толькі чэрві не ядуць.**